# Голас Радзімы

7 СТУДЗЕНЯ 1999 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 6 000 рублёў.

№ 1
(2611)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ПРА БЕЛАРУСА, ЯГО ЗМЕНЛІВАСЦЬ У ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ



*З якіх часоў жылі людзі на тэрыторыі Беларусі, адкуль прыйшлі і як выглядалі яны? Аб сённяшнім дні і будучыні беларусаў гутарка з доктарам біялагічных навук, вядучым навуковым супрацоўнікам аддзела антрапалогіі і экалогіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Інесай САЛІВОН.*

**— У кнізе "Фізічны тып беларусаў", якая нядаўна выйшла ў свет, вы апісваеце асаблівасці фізічнага тыпу розных тэрытарыяльных груп старажытнага і сучаснага насельніцтва Беларусі, характарызуеце працэс змен яго з цягам часу. Хто ж былі старажытныя продкі беларусаў і як выглядалі?**

— Археалагічныя даныя сведчаць, што засяленне тэрыторыі Беларусі пачалося ў верхнім палеаліце каля 100—300 тысяч гадоў тäму. Засяленне ішло з паўднёвага захаду і паўднёвага ўсходу ў паўночным напрамку ўслед за ледніком, які адступаў. На жаль, аб асаблівасцях фізічнага тыпу самых старажытных жыхароў Беларусі мы не можам скласці досыць поўнага ўяўлення. Самая старажытная знаходка — адзіны шкілет маладога мужчыны, засыпанага абваламу шахце, дзе здабывалі крэмень. Яго астанкі былі знойдзены археолагам Міхаілам Чарняўскім у вёсцы Чырвонае Сяло Ваўкавыскага раёна. Разам са шкілетам знойдзены фрагменты гліняната збана, аднесенага да культуры шнуравай керамікі, што дазволіла дацiраваць знаходку II тысячагоддзем да новай эры (эпоха бронзы). Аблічча гэтага "шнуравіка" тыпова еўрапеоіднае. Але ён менш масіўны, чым аналагічныя знаходкі з тэрыторыі Прыбалтыкі. Цікава, што рысы яго антрапалагічнага тыпу вельмі падобныя да больш позняга насельніцтва Гродзенскай вобласці (грунтавы могільнік канца XI — пачатку XII стагоддзяў каля Навагрудка).

Насельніцтва, якое рассялілася ў эпоху бронзы на вялізнай тэрыторыі Заходняй і Усходняй Еўропы і выпрацавала шнуравую кераміку, большасць вучоных лічыць індаеўрапейцамі, якія пазней паклалі пачатак фарміраванню балцкай і славянскай этнічных супольнасцей. На тэрыторыі Беларусі (паўночныя і цэнтральныя раёны) і ў Прыбалтыцы на аснове гэтай культуры пазней сфарміравалася культура штрыхаванай керамікі, а на яе падставе ў Прыбалтыцы — балтамоўныя плямёны. Лінгвістычныя даследаванні паказалі, што на Беларусі захаваліся старажытныя балцкія назвы рэк і паселішчаў. Прапанавана гіпотэза аб тым, што да пранікнення першых славянскіх міграцый (прыкладна ў IV—VI стагоддзях нашай эры) тут жыло балтамоўнае насельніцтва.

Аднак з-за язычніцкага абраду спальвання цел памерлых, што існаваў амаль да прыняцця хрысціянства, адсутнічаюць касцявыя астанкі насельніцтва, якое непасрэдна папярэднічала рассяленню славян на тэрыторыі Беларусі. Мы маем толькі матэрыялы (чарапы і доўгія косці) па славянскаму насельніцтву апошняга тысячагоддзя, пачынаючы з X стагоддзя. Параўнанне расавых асаблівасцей у будове чэрапа ў насельніцтва пачатку (курганныя захаванні XI—XVI стагоддзяў) і канца апошняга тысячагоддзя (беларускія сельскія могільнікі XVIII—XIX стагоддзяў) паказала поўную перайманьнасць у шэрагу пакаленняў найбольш важных прыкмет. Аднак гэта не значыць, што фізічны тып заставаўся нязменным. На працягу гэтага перыяду скараціўся пярэдне-задні (прадольны) і павялічыўся папярочны дыяметр мазгавога аддзела чэрапа, з-за чаго галава (від зверху) набыла больш акруглыя контуры. Гэтыя змены за больш працяглы адрэзак часу атрымалі назву "эпахальных".

**— На падставе чаго антраполагі даказваюць ступень роднасці старажытных і сучасных народаў?**

— Гэта цікавае, але і складанае пытанне. Справа ў тым, што цэлы шэраг біялагічных асаблівасцей, дзякуючы жорсткай спадчыннай абумоўленасці, аказваецца найбольш устойлівым у часе ў параўнанні з любымі элементамі культуры. Такія прыкметы немагчыма адвольна "перанясць" ці "згубіць", "забыцца". Калі, напрыклад, прыток іншаэтнічнага насельніцтва быў невялікі, то яго культура, як і расавы тып, можа паступова цалкам растварыцца ў карэнным насельніцтве. Рысы апошняга ў кожным наступным пакаленні будуць усё больш дамініраваць. Таму распаўсюджанне пэўнага комплексу расавых рысаў на вялікай тэрыторыі з'яўляецца сведчаннем старажытнасці яго фарміравання.

Але бывае і так, што больш высокі ўзровень усяго комплексу матэрыяльнай і духоўнай культуры прышэльцаў нават пры колькаснай перавазе карэннага насельніцтва паступова цалкам засвойваецца апошнім. У шэрагу пакаленняў захоўваюцца і нават могуць пераважаць антрапалагічныя рысы старажытных абарыгенаў, а этнавызначальныя рысы прышэльцаў усё больш дамі-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**Паважаныя калегі і чытачы газеты «Голас Радзімы»!**

*Прыміце шчырыя віншаванні з Новым, 1999 годам і Калядамі!*

*Моцнага вам здароўя, плёну ў працы, ажыццяўлення ўсіх задум, якія будуць спрыяць росквіту нашай любай Беларусі. Сапраўднага вам чалавечага шчасця і дабрабыту.*

*З павагай*

**Міхаіл ПАДГАЙНЫ,**
**Старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку.**

**Дарагая рэдакцыя «Голасу Радзімы» і таварыства «Радзіма»!**

*Шаноўныя, дарагія журналісты "Голасу Радзімы" і супрацоўнікі таварыства "Радзіма", віншую вас з Калядамі і Новым, 1999 годам! Жадаю добрага здароўя, поспехаў у працы, лепшага заўтра.*

**Андрэй ГАЎРЫЛЮК,**
**старшыня Тэрытарыяльнай рады Беларускага дэмакратычнага аб'яднання.**

Польшча.

**Паважаная рэдакцыя газеты "Голас Радзімы"!**

*Ад усяго сэрца мы віншуем вас з Калядамі і Новым, 1999 годам! Зычым моцнага здароўя. Роднай Беларусі жадаем, каб у новым годзе яна стала прыгажэйшай і багацейшай. Дзякуем за газету Радзімы. Мы чытаем яе з вялікай цікавасцю.*

*У навагоднюю ноч мы падымем бакалы за нашу Беларусь. Жадаем міру нашай Радзіме, а таксама ўсёй планеце.*

*З павагай*

**Надзея ГАЛЁНКА.**

Галандыя.



*Добры Дзед Мароз.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.*

## *Тыдзень: Міжнародны агляд. Хроніка падзей. Фотафакты.*

# БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ



## Паведамленне

***для сродкаў масавай інфармацыі па выніках сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі і Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Б. М. Ельцына (Масква, 17 снежня 1998 года)***

1. Бакі прызналі важнасць і своечасовасць гэтай сустрэчы, якая прайшла ў абстаноўцы традыцыйнай добразычлівасці і ўзаемаразумення. На ёй абмеркавана шырокае кола пытанняў міжнародных адносін, жыццядзейнасці Саюза дзвюх брацкіх дзяржаў.

Адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй паступальна развіваюцца на прынцыпах традыцыйнай дружбы і даверу, суверэннай роўнасці і ўзаемнай выгады. Актывізуюцца двухбаковыя кантакты як на міждзяржаўным, так і на рэгіянальным узроўнях. Ажывіліся міжпарламенцкія сувязі. Умацоўваецца дагаворна-прававая база. Узгодненыя крокі Беларусі і Расіі на знешнепалітычнай арэне пацвярджаюць аўтарытэт, сілу і магутнасць Саюза.

2. Кіраўнікі Беларусі і Расіі перакананы ў неабходнасці і бачаць рэальныя магчымасці далейшага, усё больш дынамічнага нарошчвання шматпланавага супрацоўніцтва паміж дзвюма дзяржавамі ў рэчышчы стратэгічнага партнёрства. Беларусь і Расія надаюць першараднае значэнне пашырэнню і паглыбленню ўзаемавыгадных эканамічных сувязей. Бакі былі адзіныя ў думцы, што сітуацыя ў Саюзе Беларусі і Расіі — гэта не толькі ўнутраная справа дзвюх дзяржаў. На яго з вялікай надзеяй глядзяць іншыя народы, і ад поспехаў спраў у Саюзе ў многім залежыць ход інтэграцыі на постсавецкай прасторы.

3. На сустрэчы бакі праінфармавалі адзін аднаго аб мерах, прынятых у Беларусі і Расіі па стабілізацыі сацыяльна-эканамічнай сітуацыі і вызначылі шэраг сумесных мер для пераадолення крызісных з'яў у эканоміцы.

Усебакова прааналізаваўшы стан адносін, перспектывы развіцця Саюза Беларусі і Расіі, а таксама правёўшы грунтоўны абмен думкамі, Прэзідэнты Беларусі і Расіі прыйшлі да адзінай думкі, што сітуацыя, якая склалася, патрабуе больш смелых і эфектыўных рашэнняў па ўзмацненню ўзаемадапаўняльнасці эканомік Беларусі і Расіі, больш глыбокага ўзаемадзеяння ў фінансава-банкаўскай сферы. Абодва Прэзідэнты абсалютна перакананы ў неабходнасці больш дзейснага пошуку шляхоў хутчэйшага выхаду з эканамічнага крызісу, больш актыўнага ўдзелу дзяржавы ў развіцці эканомікі, у наданні ёй сацыяльнай накіраванасці.

4. У мэтах павышэння ўзроўню жыцця народаў, стварэння спрыяльных умоў для ўсебаковага гарманічнага развіцця асобы, забеспячэння роўных правоў грамадзян Саюза на тэрыторыі кожнага з бакоў, абапіраючыся на імкненне народаў да яднання, у мэтах выканання мэт і задач, ускладзеных на Саюз Беларусі і Расіі Статутам Саюза Беларусі і Расіі, грунтуючыся на Дагаворы Саюза Беларусі і Расіі ад 2 красавіка 1997 года і развіваючы яго палажэнні ў мэтах далейшага збліжэння сваіх народаў у забеспячэнні дзейснай інтэграцыі ў розных сферах дзяржаўнага і грамадскага жыцця, дагаварыліся аб неабходнасці хутчэйшага вырашэння канкрэтных пытанняў у рамках Саюза Беларусі і Расіі, маючы на ўвазе перш за ўсё прадастаўленне нацыянальных рэжымаў суб'ектам гаспадарання дзвюх краін, а таксама прававое афармленне Адзінай мытнай тэрыторыі.

Прэзідэнты даручылі ўрадам сваіх краін прааналізаваць ход выканання і рэалізацыі рашэнняў, прынятых у рамках Саюза Беларусі і Расіі, запатрабаваўшы пры гэтым безумоўнага іх выканання.

5. Беларусь і Расія выказваюць сур'ёзную заклапочанасць і глыбокую трывогу ў сувязі з ваеннай акцыяй ЗША і Вялікабрытаніі ў адносінах да Ірака, якая прывяла да чалавечых ахвяр і значнага ўрону. Прынятыя ў сувязі з гэтым заявы кіраўнікоў дзвюх дзяржаў адлюстроўваюць узгодненую пазіцыю бакоў у неабходнасці неадкладнага спынення ваенна-сілавых акцый і экстраннага склікання Савета Бяспекі ААН для абмеркавання ўзніклай сітуацыі. Прэзідэнты рэзка асудзілі акцыю ЗША і Вялікабрытаніі ў адносінах да Ірака, асабліва падкрэсліўшы варварства ракетна-бомбавых удараў, нанесеных у абход рэзалюцый Савета Бяспекі ААН па іракскаму пытанню.

6. Прэзідэнты выказалі задавальненне зместам і вынікамі рабочага візіту А. Р. Лукашэнкі ў Расійскую Федэрацыю, які прайшоў у атмасферы дружбы і ўзаемаразумення. Яны адзначылі важнае значэнне візіту як этапнай падзеі ў адносінах паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй.

**● ПРЭЗІДЭНТ ЗАПРАСІЎ ДЗЯЦЕЙ НА СВЯТА Ў ЦЫРК**

Сотні дзяцей з розных раёнаў нашай рэспублікі атрымалі запрашэнне ад Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, Савета Міністраў і Беларускага фонду сацыяльнай падтрымкі дзяцей і падлеткаў "Мы — дзецям" паўдзельнічаць у дабрачынным навагоднім свяце.

Пабываць на галоўнай ёлцы краіны змаглі пераможцы розных алімпіяд, конкурсаў і спаборніцтваў, а таксама выхаванцы дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў. Аляксандр Лукашэнка асабіста павіншаваў іх з Новым годам. Дзяцей чакалі падарункі і вясёлае прадстаўленне з удзелам артыстаў эстрады і цырка. У прыватнасці, свае песні ім падарылі Анатоль Ярмоленка і Алеся. Былі і акрабаты, і клоуны, і нават мядзведзі на каньках.

Акрамя таго, для дзяцей, што прыехалі на свята ў Мінск з іншых мясцін, была падрыхтавана дадатковая праграма, якая ўключала экскурсіі па беларускай сталіцы і наведванне яшчэ адной ёлкі — у Тэатры юнага гледача.

Аднак гэтым дабрачынная акцыя "Нашы дзеці" не абмежавалася. Члены ўрада, кіраўнікі розных міністэрстваў і ведамстваў, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый наведалі дзіцячыя дамы і бальніцы, школы-інтэрнаты, павіншавалі дзяцей з Новым годам і ўручылі падарункі. Такія святочныя мерапрыемствы прайшлі па ўсёй рэспубліцы.

**● "ПАБРАТАЛІСЯ" БАБРУЙСК І УЛАДЗІМІР**

Дагавор аб пабрацімскіх сувязях, эканамічным, гандлёвым і культурным супрацоўніцтве заключаны паміж Бабруйскам і Уладзімірам у час наведвання гэтага расійскага горада дэлегацыяй Бабруйскага гарвыканкома і Савета дэпутатаў.

Бакі знайшлі ўзаемную зацікаўленасць у многіх сферах эканамічнага і сацыяльна-культурнага супрацоўніцтва.

— У час знаходжання ва Уладзіміры бабруйчане разгарнулі выставу тавараў лёгкай прамысловасці. Усе вырабы літаральна з калёс былі прададзены. Зацікавіліся ўладзімірцы і бабруйскай мэбляю. А нам спадабаўся набор камунальнай тэхнікі, створанай на базе ўладзімірскага трактара, — сказаў прадстаўнік Бабруйскага гарадскога Савета дэпутатаў Юрый Бандарэнка.

Па яго словах, бабруйчане зацікаўлены таксама ў пакупцы паралону, які ідзе для камплектацыі мэблі, малекулярных фільтраў для ачысткі вады і іншых вырабаў. Цяпер справа за канкрэтнай рэалізацыяй пабрацімскіх сувязей.

**● БЮДЖЭТ АКРЭСЛЕНЫ**

Прэзідыум Савета Міністраў на спецыяльным пасяджэнні разгледзеў праект дзяржаўнага бюджэту і сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі на 1999 год. Як адзначыў на пачатку пасяджэння прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, галоўны фінансавы закон краіны абмяркоўваецца ва ўрадзе і парламенцкіх камісіях ужо не першы раз. Эканамічная сітуацыя ў апошнія месяцы мянялася вельмі дынамічна, таму даводзілася перапісваць многія бюджэтныя артыкулы.

Асноўныя параметры праекта павінны забяспечыць устойлівае развіццё народнай гаспадаркі Беларусі. Даходная частка бюджэту ў параўнанні з гэтым годам павялічыцца ў 2,8 раза. У структуры даходу асноўныя паступленні чакаюцца ад плацяжоў па падатку на дабаўленую вартасць — 28 працэнтаў, акцызных збораў — 21,8 працэнта, падаходнага падатку — 12 працэнтаў.

Бюджэтныя расходы павялічацца ў 2,7 раза і складуць у сумарным выражэнні 667,7 трыльёна рублёў. Гэтыя сродкі будуць накіраваны на пераадоленне вынікаў эканамічнага крызісу, забеспячэнне росту даходаў насельніцтва і падтрымку рэальнага сектара эканомікі.



"Адолеўшай лёс" — ордэн, якім была ўзнагароджана яшчэ ў былым СССР наша суайчынніца Ганна Трасцінская, заслужаны ўсім яе мужным жыццём. Інвалід з дзяцінства (нарадзілася без абодвух рук), Ганна змагла пераадолець шматлікія перашкоды — паспяхова скончыла сярэднюю школу, Белдзяржуніверсітэт, затым выкладала гісторыю дзецям, як і яна, абдзеленым лёсам. Дзякуючы сіле духу, жаданню быць неабходнай людзям, Ганна Іванаўна навучылася вышываць, але робіць гэта пальцамі ног. Мастацкія працы Ганны Трасцінскай дэманстраваліся на многіх выставах.

Адну з работ майстрыха падарыла Прэзідэнту Беларусі Аляксандру Лукашэнку. Днямі Ганне Іванаўне перададзены пісьмо з падзякай Прэзідэнта і памятныя сувеніры.



У першыя чатыры домікі-катэджы з дзевяці, якія ўзводзяць па чарнобыльскай праграме ў вёсцы Жытоўля будаўнікі гомельскага трэста № 14, сельскія працаўнікі пачалі засяляцца напярэдадні Новага года.



Артыстка Віцебскага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Таццяна ЛІХАВІДАВА — лаўрэат дзяржаўнага конкурсу творчай інтэлігенцыі "Сузор'е муз" у галіне тэатральнага мастацтва.




Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне выпусціла ў абарачэнне сцэпку з дзвюх марак, прысвечаную Новаму, 1999 году і Калядам. Стварыла марку і канверт першага дня мастак Т. Гуткоўская.

**Фотахроніка БелТА.**



ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# ПРА БЕЛАРУСА, ЯГО ЗМЕНЛІВАСЦЬ У ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

нуюць. Фарміруецца новая этнічная супольнасць, адбываецца змена этнічнай прыналежнасці патомкаў. Такога роду працэс адбываўся на тэрыторыі Беларусі пры рассяленні славян, якія асімілявалі папярэдняе, як мяркуецца, балцкае насельніцтва. Аб тым, што балцкае насельніцтва было досыць шматлікім, сведчыць той факт, што да сённяшняга дня можна прасачыць пэўную ступень падабенства беларусаў Гродзенскай, Віцебскай, у меншай ступені Мінскай абласцей з насельніцтвам усходніх раёнаў Літвы і Латвіі.

На падставе ведання заканамернасцей спадчыннасці ўстойлівых па часу прыкмет распрацаваны спецыяльныя матэматычныя метады, якія дазваляюць па сукупнасці найбольш інфарматыўных расадыягнастычных рыс адрозніць генетычныя проціелгласці паміж параўнальнымі групамі, такім чынам, вызначыць ступень іх біялагічнай роднасці. Інакш гаворачы, так можна рэканструяваць радавод пэўнага народа.

**— І як жа антраполагі ўяўляюць сабе радаслоўнае дрэва беларуса?**

— Сумесна з доктарам біялагічных навук, антраполагам Аляксеем Мікулічам мы паспрабавалі параўнаць па данаму паказчыку групы беларусаў, літоўцаў, украінцаў Палесся, зборную групу рускіх і палякаў, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі.

Аказалася, што да гіпатэтычнага продкавага пласта найбольш блізкія беларусы і літоўцы, астатнія групы размеркаваліся на больш аддаленай адлегласці. Гэта пацвярджае гіпотэзу аб тым, што насельніцтва паўднёва-ўсходніх раёнаў Прыбалтыкі і асноўнай тэрыторыі Беларусі ў антрапалагічным плане "адпачкавалася" ад аднаго радаслоўнага дрэва. Аднак у этнічным плане беларусы сфарміраваліся ў XIV—XVI стагоддзях ужо не на балцкай, а на ўсходнеславянскай падставе. Таму ў нашай культуры вызначальнымі з'яўляюцца славянскія, а не балцкія рысы.

**— Чым характэрны тыпаж беларуса? Чаго ўсё ж такі болей у абліччы і характары карэннага жыхара Беларусі — балцкага ці славянскага?**

— Пра нацыянальны характар беларусаў меркаваць не бяруся. Гэта справа этнапсіхалогіі. Гаварыць жа пра тыпова "славянскія" ці "балцкія" расавыя асаблівасці няправамерна. Бо славяне (паўднёвая, заходняя і ўсходняя галіны) вельмі неаднолькавыя як у антрапалагічных, так і ў культуралагічных адносінах. Кожная са славянскіх галін мае свае асаблівасці. Балтамоўныя народы таксама негамагенныя па свайму складу. Бо з далёкіх часоў на тэрыторыі Еўропы адбываліся пастаянныя міграцыі і змешванні плямён і народаў.

Як і іншыя сучасныя народы, беларусы неаднатыпныя. Сярод насельніцтва Палесся часцей сустракаюцца людзі ніжэй сярэдняга росту з цёмнымі валасамі і вачамі, брахікефальныя. Гэтыя асаблівасці паўднёвых еўрапеоідаў, магчыма, прыўнесены на тэрыторыю Беларусі міграцыйнай плынню паўднёвай галіны славян. У паўночных раёнах, асабліва на мяжы з краінамі Прыбалтыкі, часцей сустракаюцца высакарослыя, буйнаскладзеныя, светлапігментіраваныя тыпы, характэрныя для паўночных еўрапеоідаў.

**— Такім чынам, гаварыць, што беларусы — "чыстакроўныя славяне", няправамерна?**

— Нават ставіць так пытанне нелагічна. Этнічная прыналежнасць вызначаецца не біялагічнымі асаблівасцямі супольнасцей людзей, а сукупнасцю элементаў іх духоўнай і матэрыяльнай культуры, а таксама этнічнай самастойнасцю. Негр і еўрапеоіднага аблічча чалавек не родныя ў расавых адносінах, але ў нацыянальным сэнсе жыхары Амерыкі належаць да аднаго этнасу: яны амерыканцы незалежна ад расавай прыналежнасці.

**— У апошні час вучоныя гавораць аб акселерацыі...**

— Слова "акселерацыя" азначае "паскарэнне", менавіта паскарэнне развіцця, гэта значыць, паскарэнне росту і палавой сталасці. У выніку гэтага працэсу дзеці часта аказваюцца больш высакарослымі, чым іх бацькі. Аб прычынах такой з'явы вядуцца дыскусіі, бо на развіццё арганізма аказвае ўплыў сукупнасць мноства фактараў. Зараз у многіх краінах назіраецца зніжэнне тэмпаў акселерацыі ці нават спыненне яе.

У апошнія гады рэзка пагоршыліся паказчыкі фізічнага развіцця і здароўя дзяцей і падлеткаў у Беларусі. У 90-я гады мы правялі абследаванне дзяцей у сельскай мясцовасці і мінчан. Як аказалася, нават у адносна чыстых раёнах назіраецца астэнізацыя дзяцей — адставанне масы цела ад яго даўжыні. Больш выяўлена гэтая асаблівасць у зоне радыяцыйнага кантролю. На Палессі, дзе быў парушаны натуральны хімічны баланс глебы і пітной вады яшчэ да аварыі на ЧАЭС, і ў 60—70-я гады назіралася адставанне фізічнага развіцця дзяцей у параўнанні з равеснікамі на астатняй тэрыторыі Беларусі. Экалагічныя абставіны, што склаліся пасля чарнобыльскай катастрофы, паглыбілі гэтыя з'явы. Ва ўмоўна чыстых раёнах працэс астэнізацыі можна растлумачыць рэзкім пагаршэннем эканамічных умоў. Але там, дзе наладжана дастатковае харчаванне ў школе і дома, кампенсаторныя магчымасці арганізма дзяцей лепшыя. Тым не менш выклікае трывогу, што па прычыне складаных эканамічных і экалагічных абставін у краіне фарміруецца аслабленае пакаленне.

**P. S.** На працягу апошніх пяці гадоў супрацоўнікі аддзела (а гэта, акрамя Інесы Салівон, яшчэ чатыры даследчыкі) падрыхтавалі 7 навуковых прац. Гэты цыкл работ вучоных, прысвечаны вывучэнню фізічных і біялагічных асаблівасцей беларускага энтасу і яго ўзаемадзеянню з акаляючым асяроддзем, быў нядаўна вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

**Гутарку вяла Наталля НОВІК.**

КЛУБ ДЗЕЛАВЫХ ЛЮДЗЕЙ

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ЭКАНОМІКА: ПОГЛЯД ЗНУТРЫ

**Звесткі аб сацыяльна-эканамічным стане Беларусі, якія падаюцца рознымі сродкамі масавай інфармацыі — айчыннымі і замежнымі, афіцыйнымі і недзяржаўнымі, часта не супадаюць і нават узаемна супярэчаць. Аднак сэнс і змест працэсаў, што адбываюцца ў беларускай эканоміцы, не можа быць таямніцай для людзей, чый занятак — кіраванне вытворчымі прадпрыемствамі, бізнес.**

**Напрыканцы 1998 года ў Мінску сустрэліся прадстаўнікі дзвюх уплывовых арганізацый — Беларускага клуба дырэктараў і Міжнароднага клуба дырэктараў. Друкуемы ніжэй тэкст базіруецца на дакладзе, падрыхтаваным кіраўніцтвам Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў (БСПіА).**

### ПАМІЖ РОСТАМ І СПАДАМ

Што гаворыць аб стане эканомікі ўрад? На пасяджэнні Савета Міністраў, якое вёў беларускі Прэзідэнт, разглядаліся вынікі развіцця эканомікі на працягу мінулага года. Нягледзячы на шэраг негатыўных з'яў, было адзначана: Беларусь дэманструе трывалы эканамічны рост — валавога ўнутранага прадукту (ВУП) на 11 працэнтаў, прамысловай вытворчасці на 12 працэнтаў, сельскагаспадарчай прадукцыі на 0,7 працэнта.

Што паказвае параўнанне тэмпаў росту ВУП і змены яго кошту з улікам дэвальвацыі беларускага рубля? Тое, што гэтыя лічбы амаль супадаюць. Пазалетась аб'ём ВУП вырас на 95,2 працэнта, а дэвальвацыя склала 94,3 працэнта, што дае прырост у пераліку на долары ЗША каля 0,7 працэнта. Беручы пад увагу розніцу паміж афіцыйным курсам долара рэальным, паводле якога працуе большасць вытворцаў і якая ў 1997 годзе склала каля 30 працэнтаў, можна зрабіць выснову: фізічны рост прадукцыі, працы і паслуг ураўнаважаны падзеннем іх рэальнага кошту.

Атрыманне прыбытку — гэта галоўная мэта кожнага камерцыйнага прадпрыемства. Аднак мноству іх даводзіцца гандляваць сваімі вырабамі па заніжаных цэнах. Таму тэмпы росту даходаў беларускіх прадпрыемстваў сёння блізкія да тэмпаў інфляцыі альбо нават адстаюць ад іх. Гэта значыць — айчынныя вытворцы не арыентуюцца на атрыманне прыбыткаў.

Чаму цэны на беларускія тавары аказаліся ненатуральна нізкія? На думку экспертаў БСПіА, галоўнай прычынай таго стаў бартэрны гандаль, бартэрныя разлікі за расійскія энерганосьбіты ды неарганізаваны вываз тавараў у Расію і іншыя краіны Мытнага саюза і СНД.

Бартэрны гандаль з Расіяй у спалучэнні з заніжаным коштам беларускай прадукцыі напачатку стаў інструментам пашырэння рынкаў збыту айчынных тавараў і дапамагаў вырашаць праблемы нявыплат. У 1997-м экспарт беларускай прадукцыі ў Расію вырас на 53 працэнты, а агулам — на 26,5 працэнта. Ва ўмовах, калі на экспарт ідзе да 90 працэнтаў прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, гэта аказала станоўчы ўплыў на эканоміку.

На жаль, рост экспарту ў Расію адбываўся аднachасова са скарачэннем яго ў іншыя краіны. Аднабаковая яго скіраванасць балюча ўдарыла па айчынных вытворцах з пачаткам у верасні — кастрычніку 1998 года эканамічнага крызісу ў Расіі.

Да таго часу ажыўленню эканомікі спрыяў рост унутранага попыту, выкліканы ростам грашовай масы і намінальных даходаў грамадзян. Паводле даных Нацыянальнага банка, у 1997 годзе агульны аб'ём грашовай масы ў краіне вырас на 88,7 працэнта, а актыўны яе састаў павялічыўся ў параўнанні з папярэднім годам у 2,1 раза. У выніку выраслі і актывы банкаўскай сістэмы, што спрыяла росту прамысловай вытворчасці і валавога ўнутранага прадукту.

Аднак эмісійныя крэдытныя ўклады хутка сталі асноўнымі прычынамі інфляцыі і дэвальвацыі. Іх дзеянне працягваецца: са студзеня па кастрычнік 1998 года спажывецкія цэны выраслі на 85 працэнтаў, а кошт беларускага рубля ў сярэдзіне кастрычніка зноў упаў. Гэта вынік стымулявання росту вытворчасці праз празмерную грашовую эмісію.

Калі гаварыць аб курсе нацыянальнай валюты, дык трэба помніць: у Беларусі іх некалькі. Афіцыйны курс Нацыянальнага банка ў снежні 1998 года быў каля 100 тысяч рублёў за долар, абменны курс камерцыйных банкаў — каля 220 тысяч, курс чорнага рынку каля 250 тысяч і, нарэшце, 400 тысяч безнаяўных рублёў за долар. Такое разыходжанне паміж афіцыйным і рэальным курсам валют ускладняе працу прадпрыемстваў.

### ШТО НАПЕРАДЗЕ?

Нягледзячы на мноства праблем, параўнанне аб'ёмаў вытворчасці беларускай прадукцыі ў 1990—1997 гадах сведчыць: рэзервы росту існуюць. Аднак у прамысловасці неабходнасць павышэння якасці і канкурэнтаздольнасці прадукцыі дзеля захавання рынкаў патрабуе ад беларускіх вытворцаў мадэрнізацыі прадпрыемстваў. Мадэрнізацыя ж патрабуе толькі аднаго — інвестыцый.

Улічваючы спецыфіку сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у Беларусі, можна меркаваць, што галоўнымі крыніцамі капітальных укладанняў мусяць зрабіцца ўласныя сродкі прадпрыемстваў, накапленні насельніцтва ды замежныя крэдыты.

У Беларусі ўжо дзейнічаюць крэдытныя лініі Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі, Іспаніі, Бельгіі і Турцыі. Разглядаецца магчымасць адкрыцця новых і аднаўлення замарожаных раней крэдытных ліній Кувейта, Ірана, Італіі, ЗША, Японіі ды іншых краін.

На погляд кіраўніцтва БСПіА, перспектывы развіцця ў беларускай эканоміцы ёсць. Яны ў пашырэнні няўрадавага, прыватнага сектара эканомікі, які ў стане правесці структурную перабудову эканомікі пры ўмове існавання ў аднолькавых з дзяржаўным умовах. Лібералізацыя валютнага рэжыму, аслабленне цэнавага і адміністрацыйнага кантролю, стварэнне новых прадпрыемстваў дзеля барацьбы з манапалізмам — гэтыя захады ўрада спрыялі б аздараўленню эканомікі і росту ўзроўню жыцця насельніцтва.

**Уладзімір ПАНАДА.**

ШКОЛА БУДУЧАГА СТАГОДДЗЯ



"Школа будучага стагоддзя", — відаць, цяперашнія вучні Мінскай педагагічнай гімназіі № 3 скажуць так ужо сёння аб сваёй гімназіі і сваіх настаўніках. З 1990 года звычайная мінская сярэдняя школа № 61 стала педагагічнай гімназіяй. Сюды прыходзяць вучыцца тыя, хто з дзіцячых гадоў марыць аб прафесіі педагога. У гімназіі пануе дух пазнання, творчасці. Такую атмасферу ствараюць добразычлівасць і цікавасць дзяцей да любімых прадметаў, іх імкненне як мага лепш засвоіць вучэбны матэрыял. З задавальненнем спасцігаюць азы будучай прафесіі гімназісты ўсіх узростаў — ад першакласнікаў да выпускнікоў. А якое задавальненне працаваць педагогам у такіх класах, дзе няма лянівых і абыякавых. 75 працэнтаў выпускнікоў мінулага года — сёння першакурснікі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка.

Педагагічны калектыў гімназіі, працягваючы лепшыя традыцыі СШ № 61, якой у канцы мінулага года споўнілася 40 гадоў, працуе ў інавацыйным рэжыме. Гімназія — асацыіраваны член ЮНЕСКА і ўдзельнічае ў міжнародным праекце "Культура свету". У гімназіі вядуць урокі прафесары, дацэнты і выкладчыкі педагагічнага універсітэта імя М. Танка, яна — філіял кафедры педагогікі.



*На здымках: урок у 5 "В" класе праводзяць вучаніцы старшых класаў педагагічнай гімназіі Каця МАРЫНІНА і Каця КРАСІКАВА (у цэнтры); сябры.*

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

# УСІМ ЛЮДЗЯМ — 



...Калядны вечар з месяцам на ясным небе, л
цам, што прымушаў снег звонка парыпваць пад на
казачна чароўным. А тут яшчэ толькі мы выйшл
браму, як трапілі ў абдымкі нейкага калматага с
хаця цвярозы розум імгненна пабудаваў сваю
крэпасць — гэтага не можа быць — тым не
ўздрыгнулася і кудысьці пакацілася... Але тут стр
пявала баском.

І мы пачалі адыходзіць ад слупняка, угледзеўш
тага: на вымазаным сажай твары яго весела паблі
а жахлівы выгляд надаваў яму яшчэ і вывернуть
верх кажух. Побач стаяла і рагатала задаволе
"суправаджэнне" — "маладзіца", расфарба
матрошку", у стракатай хустцы і развясёлы гарм
"адкупляцца" не давялося, бо "пераадзетыя" — р
жыкі задаволіліся нашым здзіўленнем і заміла
пайшлі шчыраваць далей, а мы з сяброўкай пакр
што пачынаўся за хатамі. Месяц і зоркі дружалю
валі нам шлях. Цішыня стаяла такая, быццам у 
стварэння свету. Мы саступілі з лясной сцежкі ўб
апусціліся на бялюткі, з месячкавым водбліска
снег, выцягнуўшыся на ўвесь рост. Абрысы наш

## ПРОСІМ ДА КУЦЦІ

У гэты вечар гаспадыня старанна ўбіралася, падмятала падлогу, бо ў наступныя дні гэтага ўжо нельга было рабіць, каб улетку чысты лён быў. Не сварыліся, усёй сям'ёй за перадкаляднай вячэрай збіраліся. Вячэра пераважна з пяці-сямі страў складалася — селядзец ці іншая рыба з алеем, квас з грыбамі, бліны, аўсяны кісель. Але галоўная страва — куцця посная (ячная каша з алеем або мёдам). Лічылася: якая куцця, такі будзе і ўраджай; які дзень,такі будзе і год. Святочная вячэра пачыналася са з'яўленнем на небе першай зоркі. Стол усцілаўся сенам, накрываўся абрусам. Як усе расcядуцца за сталом, гаспадар зачэрпне першую лыжку куцці, стукне ёю ў сцяну ці акно і запрашае: "Мароз, мароз, хадзі куццю есці! Каб ты не марозіў ячменю, пшаніцы, гароху, сачавіцы, проса, грэчкі і ўсяго, што мне Бог судзіць пасеяць!"

Пасля ўжо гаспадыня звярталася да марозу з просьбай не пашкодзіць моркву, буракі, агуркі, гарбузы і іншую агародніну.

А на Віцебшчыне гаспадар адчыняў акно і запрашаў: "Строк, а строк (авадзень)! Просім да куцці, толькі маіх коней (валоў) не кугуці".











**НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА**

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЁЙ...»

***Працяг гутаркі журналісткі Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Музай СНЯЖКО, аднакурсніцай і сяброўкай юнацтва Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА***

Мусіць, гэтым можна патлумачыць і яго даволі рызыкоўную паездку ў Маскву, на пахаванне Сталіна. То была не пустая цікавасць чалавека: усе едуць і я. Не. Ён па-свойму ўспрыняў смерць Сталіна. І я, напрыклад, не здзівілася, калі даведалася, што Караткевіч паехаў. Забаронена, нельга, а ён паехаў. Праўду кажучы, ацаніла я гэты ўчынак яго значна пазней. Я добра ведала Валодзю, але разуменне таго, што ён неардынарная асоба, прыйшло не адразу. І, калі на яго вяку дзеецца гісторыя, ён павінен бачыць, чуць, сам удзельнічаць.

Пасля той паездкі ў Маскву яго выклікалі на партком. На шчасце, усё закончылася добра. А маглі выключыць з універсітэта... Тады на курсе ўсе дзівіліся: "Чаго цябе туды панесла? Сядзеў бы спакойна на месцы". А ў ім усё бурліла. У ім ужываліся гістарычная інтуіцыя і навуковая скрупулёзнасць. Ён вывучаў усё дэталёва, падрабязна. Аднак ніколі не казаў, напрыклад, што павінен вывучыць XVII стагоддзе, бо хоча напісаць раман. Гэта было яго жыццё. Ён не мог не вывучаць.

— Вы неяк сказалі, што на вашым курсе вучыліся два палякі, адзін албанец...

— і адзін беларус.

— І адзін беларус. Што сведчыла пра беларускасць Караткевіча? Ваш факультэт рускай філалогіі, універсітэт Кіеўскі, час пасляваенны. Здавалася б, ніштo не садзейнічала выяўленню нацыянальнага. Але чаму менавіта вобраз беларуса застаўся ў памяці аднакурснікаў?

— Гэта вельмі цікавае пытанне для мяне самой. Калі мы паступілі, ні пра якую нацыянальнасць не было і гаворкі. І не надавалі таму ніякага значэння. Палякаў і албанца заўважылі адразу, як іншаземцаў. Пра астатніх увогуле не казалі, хто ёсць хто. Але тое, што Караткевіч — беларус, было вядома ўсяму курсу. Чаму? Ён жа спецыяльна нічога не рабіў дзеля гэтага. Мы толькі экзамены па ўкраінскай літаратуры і мове адказвалі па-ўкраінску. Астатнія прадметы і вывучалі, і здавалі на рускай мове. Бытавая гаворка — таксама руская. Аднак Валодзя штодзень карыстаўся беларускімі словамі, сказамі, зваротамі, прымаўкамі. Гэтае неназойлівае ўжыванне роднай мовы і падкрэслівала яго нацыянальную прыналежнасць. А калі мы збіраліся на нашы вечары адпачынку, святочныя застоллі — тут ужо Караткевіча з яго беларускімі песнямі, вершамі, расповедамі можна было слухаць бясконца. Дарэчы, у тыя часы мы ўпершыню пачулі яго знакаміты верш "Заяц варыць піва". І тады ж Валодзя падараваў мне свой рукапіс (цяпер я перадала яго ў народны музей У. Караткевіча СШ № 3 г. Оршы). Відаць, беларускі пачатак быў такім моцным у Валодзі, што ўсе мы адчувалі яго беларускасць.

Неяк у адной з прац я прачытала, што Караткевіч ніколі нічога не пісаў па-руску. Гэта не так. У мяне ёсць верш, прысвечаны мне, на рускай мове. А вось на ўкраінскай я, сапраўды, нічога ў яго не сустракала. Хаця ён добра ведаў і ўкраінскую мову, і ўкраінскую літаратуру. Спяваў шмат украінскіх песень. Ён, між іншым, ніколі не звяртаў увагі, на якой мове чалавек размаўляе. І мне ён таксама не казаў: "Муза, ты — украінка. Чаму ты размаўляеш па-руску?" Такога не было. Але пры гэтым Валодзя здолеў "паднесці" сябе як беларуса вельмі тонка і тактоўна. Усе гады нашай вучобы ў ім жыло асаблівае пачуццё свайго народа і сваёй мовы.

І калі зараз спытацца ў нашых аднакурснікаў, што яны могуць згадаць пра Караткевіча, спачатку адкажуць: хлопец з Беларусі быў... потым усё астатняе. Вось што вельмі цікава. Як гэта атрымалася? Бо ніхто ж не скажа, напрыклад, пра мяне: а, Залеўская — украінка. Не. Хутчэй скажуць: імя ў яе рэдкае — Муза, можа, яшчэ ўспомняць, што спявала ў ансамблі. Але пра тое, што я — украінка, ніхто не абмовіцца. Затое ўсе гавораць, што ў нас на курсе было два палякі, адзін албанец і адзін беларус.

— Што вы можаце сказаць пра асаблівасці характару вашага аднакурсніка Валодзі Караткевіча? Ён прыкметна змяніўся як асоба к канцу універсітэцкай вучобы? Ці адбіваліся тыя перамены на яго ўчынках?

— Ведаеце, усё, што я вам зараз кажу, — гэта, канешне, сённяшняе маё светаадчуванне. Тады над многім мы проста не задумваліся, не акцэнтавалі сваёй увагі. Я толькі на 5-м курсе навучылася ацэньваць людзей, распазнаваць у іх адносінах справядлівае і несправядлівае. Валодзя ж гэтую праўду-няпраўду адчуў адразу. Ён стараўся быць аб'ектыўным. Бывала, ва ўзаемаадносінах з ім узнікалі складанасці. Яго было цяжка пераканаць. Ён мог сказаць гучна, рэзка...

— Уголас, пры народзе?

— Так. У гэтым праяўляўся яго характар і погляд на тое, што адбывалася. Але ён ніколі не зводзіў рахункаў са сваімі "праціўнікамі" ці апанентамі. І пры ўсёй сваёй, скажам, нелюбові да каго-небудзь (дык і нельга ж усіх любіць!) ён ніколі нікому не рабіў паскудства. Не займаўся плёткамі. Ён прыйшоў да нас на курс хлопчыкам — мы яго так і ўспрымалі, — а яго душа сталела вельмі хутка. Ён па-даросламу рэагаваў на навакольны свет і паводзіны людзей. Гэта проста не спалучалася з яго дзіцячай знешнасцю.

Ён, між іншым, шмат пісаў і маляваў у студэнцтве. Але не ўсім дасталіся яго вершы, пісьмы ці малюнкі. Тут ён таксама інтуітыўна выбіраў адрасата. Гэта вельмі цікавы працэс. Я сёння добра разумею, што Валодзя сталеў унутрана, сталеў розумам. І, магчыма, на курсе ён не знаходзіў вартага яму асяродка. Цяпер ужо думаеш, вось каб тады побач з ім аказалася больш інтэлектуалаў — ён бы, канешне, расцвіў і раней, і мацней...

А так... Пашанцавала, безумоўна, на Няўважнага, Лінніка, Хелямендзіка. Яшчэ, дарэчы, Коля Карнух. Іх з Валодзем называлі Пат і Паташон. Абодва вельмі розныя, часам ідуць з інтэрната: Коля чорны, лоб нізкі, па натуры замкнёны, усміхаецца рэдка, а Валодзя ўсміхаецца пастаянна — галодны ці пад'еўшы, але ўсміхаецца...

Караткевіч быў горды чалавек. І вельмі важна было для яго захаваць пачуццё ўласнай годнасці, унутраную раўнавагу і ўпэўненасць. У сітуацыі з аспірантурай, я думаю, яго ўсё-такі абражала, што туды лезуць усялякія невукі, а ён вымушаны ехаць па размеркаванню ў вясковую школу. Яму было крыўдна за сябе. Але чым больш ён займаўся самаедствам, тым больш працаваў. Пра тое ж сведчыць і яго пазнейшае прымацаванне да кафедры, і пачатак дысертацыі.

А пакуль Валодзя паехаў у Лесавічы. І, я вам скажу, ён не разглядаў сваю настаўніцкую працу як прыступку ўніз ці як штосьці непатрэбнае. Валодзя да любой з'явы жыцця ставіўся з вялікай дапытлівасцю. І, як чалавек, які думае і цікавіцца ўсім, ён у той вёсцы знаходзіў...

— ...безліч вартага і займальнага?!

— Неймаверна! Ён апісваў сваіх гаспадароў і вучняў у пісьмах, яшчэ і малюнкамі іх аздобіць. Ён бачыў у гэтым жыццё. Бо па натуры Караткевіч — вялікі жыццялюб, яго ўсё вельмі цікавіла...

Канешне, творчай душы патрабавалася прызнанне. Яно прыйшло не адразу... Валодзя часта не пагаджаўся з тым, што адбывалася, але ніколі не вымольваў сабе літасці. Толькі заслужаная адзнака, нават калі яна і жорсткая, і рэзкая. А трэба сказаць, у нашы студэнцкія гады менавіта прынцып "па заслугах" вельмі часта парушаўся. І Валодзя быў непрымірымы ў такіх выпадках. Гэта асабліва стала відавочна к канцу вучобы, калі маральна мы прыкметна пасталелі. Валодзю, як нікому, прыходзілася складана. Але ён ніколі не скардзіўся. Ні на што. Ён абураўся, ён пратэставаў, але ён не рабіў з сябе пакутніка.

— Мне здаецца, час студэнцтва абвастрае ўспрыняцце многіх рэчаў, тым больш атмасфера іншага горада. Муза Яўгенаўна, вы можаце сказаць, чым быў Кіеў тых часоў для Караткевіча? Як адчуваў ён ваш родны горад, як уваходзіў у яго?

— У Валодзі, мусіць, не было ўражання новага горада. Ён ведаў Кіеў раней. Жыў тут трохі ў час вайны ў сваёй цёткі. Па-другое, вайна ператварыла Кіеў у руіны. На Крашчаціку захаваўся адзін дом. На нашых вачах усё адбудоўвалася. Мы самі ўдзельнічалі ў гэтых работах. Пачаў хадзіць транспарт — трамвай, тралейбус. Але ваенныя гады па-ранейшаму нагадвалі пра сябе: знаходзілі міны, снарады, ныла сэрца па загінуўшых. Усе недаядалі, не хапала грошай. Стыпендыю атрымлівалі маленькую.

Але гэтае эмацыянальнае ўзрушэнне не перашкаджала Валодзі глядзець у глыб гісторыі. З першага курса ён зацікавіўся кіеўскай старажытнасцю. Я думаю, на гэта станоўча паўплываў яшчэ і цудоўна прачытаны нам курс па старажытнарускай літаратуры. Пасля, у адным са сваіх лістоў нашаму выкладчыку Назарэўскаму, Валодзя пісаў, што сапраўдны мастак, які адчуў характво старадаўнасці, ніколі не зможа з ёю расстацца. А калі не здолее яго заўважыць і ацаніць — не зможа быць сапраўдным мастаком.

Любімым месцам Валодзі была Кіева-Пячэрская лаўра. Гэта для яго святая святых: найстаражытная кропка горада і абсалютная дасканаласць архітэктуры. У час нашага студэнцтва яна яшчэ не была музеем-запаведнікам, а дзейнічала як мужчынскі манастыр. І пячоры абслугоўваліся манахамі. І хадзілі яны са свечкамі і расказвалі, вядома, не так, як праз 10 гадоў большасць савецкіх экскурсаводаў.

Трэба сказаць, экскурсійная служба ў Кіева ўвогуле арганізавалася даволі позна. А ўжо экскурсіі гістарычныя, літаратурныя, скажам, пра Булгакава ці Урубеля, з такімі аб'ектамі, як Кірылаўская царква і інш., пакуль і не меркаваліся. Усё даводзілася вывучаць самастойна. Валодзя пешшу абышоў (і не раз!) самыя славутыя мясціны.

Кіеў тады ўспрымаўся намі хутчэй як сталіца рэспублікі, а не як маці рускіх гарадоў. Больш таго, яго адносілі да перыферыі. Затое Кіеў захапляў сваім ландшафтам: узгоркамі, паркамі. Цудоўная рака з востравам пасярэдзіне. Перапраўляліся на яго на баржы. Там былі пляжы, на якіх студэнты ў летнюю сесію рыхтаваліся да экзаменаў. У Валодзі вельмі шмат здымкаў на фоне прыроды і зусім мала з архітэктурным пейзажам. Ён вельмі часта бываў на Уладзімірскай горцы, любіў хадзіць у парк насупраць універсітэта і часта там фатаграфаваўся. Але не побач з фігурай Т. Шаўчэнкі, а сам па сабе, ля дрэваў.

Потым у Валодзі сфарміраваліся пэўныя адносіны да Кіева, ужо звязаныя з канкрэтнымі людзьмі, з вучобай, з выданнем сваіх твораў на Украіне, з нейкімі асабістымі ўспамінамі. Тут у яго было і засталося шмат сяброў.

— Цікава, а Кіеў як гістарычны цэнтр, як пачатак Русі — гэта займала тады Караткевіча, згадвалася неяк у яго размовах?

— Менавіта Кіеў як цэнтр Русі, думаю, на першых курсах — яшчэ не. Хутчэй, Старажытная Русь сама па сабе. Бо тады на лекцыях, семінарах у нас не паўставала пытанне: што першаснае? Кіеў ці Масква? І гэта цэнтр Русі ці Украіны? Мы вывучалі "Слова пра паход Ігаравы" па рускай літаратуры і ўкраінскай. А пра нацыянальную прыналежнасць гэтага помніка пісьменства размова не ішла. Мы жылі ў Савецкім Саюзе. Многія нават думалі, што гадоў праз 10—15 мы аб'ядаемся з палякамі, чэхамі, балгарамі і г. д., і гэта будзе вялікая квітнеючая дзяржава. Нас тады вельмі мацавала і захапляла перамога ў другой сусветнай вайне. А саграваla гэтую надзею наіўная вера маладосці ў дабро і справядлівасць на ўсім зямным шары, а не толькі ў адной асобнай краіне.



*1 Мая 1953 года. Кіеў. У. Караткевіч з сябрамі.*




*У народным музеі У. Караткевіча ў СШ № 3 горада Оршы.*

Працяг.
Пачатак у №№ 48—52.



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



# ЛЯЎКОЎСКІЯ «ЦАГЛІНКІ»

## ДВАЦЦАЦЬ ГАДОЎ ПРАСЛАЎЛЯЮЦЬ БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА

Песенны калектыў "Цаглінкі" ў Старым Ляўкове (Нараўчанская гміна, Беластоцкае ваяводства) існуе дваццаць гадоў. Ад самага пачатку (з тых, хто і цяпер у калектыве) спявалі: Вера Сват, Ніна Рэент, Ірэна Мірановіч, Марыя Русіновіч, Надзея Кабаць. Першым інструктарам быў Аляксандр Лукашук, які даязджаў у Ляўкова з Гайнаўкі. Пасля доўгі час калектывам кіраваў настаўнік мясцовай пачатковай школы Васіль Целушэцкі, а яшчэ пазней пачалі прыязджаць музычныя інструктары з Рэспублікі Беларусь. Спачатку быў гэта Вячаслаў Пакумейка, цяпер вось ужо пяць гадоў даязджае Мікалай Мяжэнны — выкладчык Гродзенскага мастацкага вучылішча. Ён тут праводзіць рэпетыцыі з калектывам не менш, чым два разы ў месяц.

За апошні час вельмі ўзрасло майстэрства калектыву, пашырыўся яго рэпертуар. Сёлета на V фестывалі беларускай песні-98 у Беластоку ён заняў другое месца ў катэгорыі апрацаванай песні. Варта адзначыць, што "Цаглінкі" выступалі ў Беластоку і ў Варшаве, у Гродне і ў Пінску.

Калектыў у Ляўкоўскай акрузе асацыіруецца з Ляўкоўскім керамічным прадпрыемствам. Ужо нават з-за назвы "Цаглінкі". Ён добрая рэклама фабрыкі. І прадпрыемства яму дапамагае. Клапоціцца пра сваіх "артыстаў". Кіраўнік калектыву — Валянціна Грыка (яна і кіраўнік святліцы ў Старым Ляўкове).

"Цаглінкі" ўжо 20 гадоў праслаўляюць беларускае мастацтва. Лёгка спяваецца ім, бо яны тут гавораць амаль на чыстай беларускай літаратурнай мове.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА.**

Польшча.

# ПІСЬМО СА СМАЛЕНСКА

*Неяк мне давялося пазнаёміцца з маладой дзяўчынай са Смаленска. Бацькі яе беларусы, нарадзілася яна на Смаленшчыне, нядаўна зацікавілася радзімай сваіх продкаў. Учора я атрымала ад яе віншаванне з Калядамі і некалькі вытрымак з архіўных матэрыялаў. Думаю, яны будуць цікавымі для маладых чытачоў.*

**...ЯК ВЯДОМА з гісторыі, нашы продкі-крывічы (смаленскія і полацкія) у XI—XVI стагоддзях уваходзілі ў магутнае Вялікае княства Літоўскае, затым Рэч Паспалітую. На працягу многіх стагоддзяў Беларусь і Смаленшчына знаходзіліся ў цесных палітычных, культурных, эканамічных сувязях... У пачатку XIX стагоддзя акадэмік Я. Карскі налічваў у Смаленскай вобласці каля 1 мільёна беларусаў. Асабліва многа іх выехала з Беларусі туды на пачатку першай сусветнай вайны. Да рэвалюцыі з 12 паветаў вобласці сем адносілі да ліку беларускіх, а Смаленшчыну да ліку беларускіх губерняў. 575,6 тысячы жыхароў Смаленшчыны лічылі сябе беларусамі.**

**30—31 снежня 1918 года 6-я Паўночна-заходняя абласная канферэнцыя РКП(б) аб'явіла сябе І з'ездам Кампартыі Беларусі і прыняла Пастанову аб стварэнні БССР у складзе Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай і Смаленскай губерняў, а 2 лютага 1919 года Расія пацвердзіла самастойнасць БССР.**

Пасля рэвалюцыі 1917 года на Смаленшчыне пачынаецца бурны перыяд развіцця беларушчыны.

У 1925 годзе пры Смаленскім ГУБАНА быў створаны Савет па асвеце беларусаў, які распрацаваў доўгатэрміновы план з наступнымі мерапрыемствамі: скласці этнаграфічную карту беларускага насельніцтва Смаленскай губерні; зрабіць спіс беларусаў, якія ведаюць ці жадаюць вывучаць беларускую мову; выявіць магчымасць пераводу некалькіх школ на беларускую мову; накіраваць настаўнікаў на курсы перападрыхтоўкі ў Мінск; распрацаваць канкрэтны план па адкрыцці беларускіх школ.

У архівах ёсць справаздачы мясцовых органаў улады аб выкананні гэтага плана. Напрыклад, існуе паведамленне ў Смаленскі АблАНА наступнага зместу: "...У 1927 годзе ў Шумяцкім раёне адкрыта 11 беларускіх школ, заняткі праходзяць на беларускай мове... У Руднянскім раёне адкрыта — 16 школ..."

**СА СМАЛЕНШЧЫНАЙ звязаны лёс многіх славутых беларусаў.**

**Максім Іванавіч Гарэцкі , беларускі пісьменнік, рэдактар-выдавец, выкладчык, лексікограф, публіцыст, культурны і грамадскі дзеяч.** С 1917 года ён жыве ў Смаленску, супрацоўнічае з газетай "Известия Смоленского совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов", дзе публікуе 12 артыкулаў. Выдае "Руска-беларускі слоўнік". Адначасова ў мясцовым філіяле Маскоўскага археалагічнага інстытута вучыцца на факультэце гісторыі мастацтваў. У 1937 годзе арыштаваны і расстраляны.

**Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала)**, нарадзіўся ў 1882 годзе ў фальварку Вязынка Вілейскага павета, Віленскай губерні, народны паэт Беларусі, з 1917 па 1919 год жыве ў Смаленску. Тут ён напісаў цыкл вершаў, які ўмоўна называецца смаленскім.

**Аляксандр Мікалаевіч Ляўданскі**, нарадзіўся у 1893 годзе ў Смалявіцкім раёне Мінскай губерні, вядомы археолаг. Яго даследаванні, зробленыя на Смаленшчыне, ахопліваюць шырокі круг старажытнасці. Ім апублікавана 70 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў. С 1922 па 1925 год вучыўся ў Смаленскім універсітэце, потым працаваў у абласным музеі, выкладаў ва універсітэце.

**Данііл Паўлавіч Макоўскі** нарадзіўся ў 1899 годзе ў Магілёўскай губерні, доктар гістарычных навук, прафесар, працаваў доўгі час у Смаленскім педінстытуце. Актыўна займаўся краязнаўствам. Аўтар прац па гісторыі смаленскай зямлі.

**Данііл Іванавіч Пагуляеў** нарадзіўся ў 1895 годзе ў Магілёўскай вобласці, доктар геолага-мінералагічных навук, прафесар. У 1922 годзе пачаў вучыцца ў Смаленскім педінстытуце, а з часам стаў прафесарам, загадчыкам кафедры геалогіі. Зрабіў вялікі ўклад у вывучэнне прыроды і геалогіі Смаленшчыны. Яго навуковыя працы добра вядомыя ў Беларусі.

**Уладзімір Мікалаевіч Дабравольскі** нарадзіўся ў 1856 годзе ў вёсцы Данькава Смаленскай губерні, вядомы краязнаўца, этнограф, фальклярыст. Сярод яго прац: "Различия в верованиях и обычаях белорусов и великорусов Смоленской губернии", "Обряды и поверья, относящиеся к домашним и полевым работам крестьян Смоленской губернии", зборнікі прыказак і загадак. Асноўная праца — смаленскі этнаграфічны зборнік, які ўтрымлівае вялікі матэрыял па духоўнай культуры беларусаў.

**Іван Міхайлавіч Хазераў** нарадзіўся ў Мінску ў 1889 годзе, знаўца помнікаў архітэктуры Смаленска, Віцебска, Полацка, дырэктар Смаленскага музея. Вядомыя яго рукапісы "Архітэктура Беларусі і Смаленшчыны 11—12 стагоддзяў", "Развалины Мономахова собора в Смоленске".

**Ніна ТУР.**

● **Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ЗЭЛЬВЕНЦЫ ЗА МЕЖАМІ РАДЗІМЫ

Славутая вёска Дзярэчын на Зэльвеншчыне з 1685 года належала беларускаму магнацкаму роду Сапегаў і была адной з іх галоўных рэзідэнцый. Далёкі нашчадак Сапегаў **Эўстах Сапега** зараз пражывае ў Афрыцы, у Кеніі. Ён сын былога міністра замежных спраў Польшчы ў 1920—1921 гадах Эўстахія Каэтана Сапегі (1881—1963), прафесіянальны паляўнічы.

У 1995 годзе Польскім навуковым выдавецтвам была выдадзена фенаменальная манаграфія "Дом Сапежанскі" пад рэдакцыяй Эўстаха Сапегі. У ёй — усё пра Сапегаў. І, вядома, шмат напісана пра Дзярэчын. Дарэчы, летась Эўстах Сапега наведаў радзіму сваіх бацькоў і дзядоў. Ён пабываў у Гродне, меў сустрэчу з зэльвенскімі паэтам Міхасём Скоблам і прадпрымальнікам Валянцінам Дубатоўкам. На якой мове яны гутарылі? На польскай і на роднай беларускай мове. Уявіце, жыхар Афрыкі Эўстах Сапега размаўляе па-беларуску. А слёзы капаюць з вачэй...

Цяпер з далёкай Афрыкі вернемся ў Вялікабрытанію, дзе жыве англійскі гісторык **Міхал Гедройць**. Нарадзіўся ён у маёнтку Лобзава, што каля Дзярэчына, у 1929 годзе. У 1940-м разам з маці быў дэпартаваны ў Сібір. Бацьку яго, Тадэвуша Гедройця, расстралялі ў чэрвені 1941 года. Потым быў выезд у Іран з арміяй Андэрса і вучоба ў Лонданскім універсітэце.

*Даўно ўжо прыйшоў час распачаць пошукі слядоў зэльвенцаў, якія згубіліся на чужыне. Па самых розных прычынах яны пакінулі родную Зэльвеншчыну: то першая сусветная вайна, то рэвалюцыя ў Расіі, то грамадзянская вайна, то калектывізацыя, то другая сусветная вайна, то сталінскія рэпрэсіі скранулі з абжытых селішчаў тысячы зэльвенцаў, якія вымушаны былі шукаць больш бяспечных мясцін для працы і жыцця.*

*Вядома, пра ўсіх зэльвенцаў у свеце расказаць немагчыма. Але сярод іх ёсць асобы, не заўважыць якіх проста нельга.*

Міхал Гедройць усё жыццё працаваў у галіне канструявання і эксплуатацыі авіятэхнікі. Адначасова даследаваў гісторыю Вялікага княства Літоўскага. У апошні час наш зямляк заняўся гісторыяй хрысціянства ў Беларусі і Літве, апублікаваў на гэтую тэму некалькі грунтоўных прац.

У час прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі Міхал Гедройць быў назіральнікам ад Вялікабрытаніі. Ён наведаў сваю радзіму, пабываў у Дзярэчыне.

Калі размова пайшла пра Дзярэчын, дык хачу сказаць, што з 1932 года тут жыў і працаваў беларускі перакладчык, публіцыст і выдавец Ян Пятроўскі. Чатыры гады ў Дзярэчыне не прайшлі марна. У першым томе ягоных "Мемуараў", якія выйшлі з друку ў ЗША ў 1988 годзе, **Ян Пятроўскі** надрукаваў цэлы раздзел успамінаў пра гэтую вёску, які так і называецца "Дзярэчын — малы Версаль".

Цяпер Ян Пятроўскі жыве ў ЗША ў штаце Фларыда. Ён выдаў тры тамы сваіх "Мемуараў", пераклаў на беларускую мову і надрукаваў шэсць кніг дыялогаў грэчаскага філосафа Платона. Не кожная дзяржава ў свеце можа пахваліцца слоўнікам, які сёння маюць беларусы. Маецца на ўвазе двухтомнік "Грэцка-беларускага слоўніка" Яна Пятроўскага. У 60-х гадах наш зямляк у Амерыцы выдаў часопіс "Сьветач Хрыстовае Навукі", а таксама трохтомнік "Лепшых думак чалавека". Яну Пятроўскаму 20 студзеня 1999 года споўніцца 94 гады, але ён па-ранейшаму шмат піша і падтрымлівае сувязі з роднай Беларуссю.

Большую частку жыцця пражыў у Бельгіі былы зэльвенец **Яўген Смаршчок**. Нарадзіўся ён у 1914 годзе. У 1939-м быў мабілізаваны ў польскае войска, прымаў удзел у польска-нямецкай вайне, дзе пад Варшавай трапіў у палон. Пасля палону Яўген Смаршчок працаваў у Берліне на фабрыцы, а восенню 1947 года пераехаў у Марбург і паступіў на псіхалагічны факультэт Філіпс Універсітэта. У 1950 годзе атрымаў дыплом магістра псіхалогіі. Пасля жаніцьбы на Зоі Жалязоўскай — студэнтцы фармацэўтычнага факультэта Лювенскага універсітэта Яўген Смаршчок пераязджае ў Бельгію і паступае на педагагічны факультэт Лювенскага універсітэта. Пасля заканчэння яго атрымаў дыплом доктара педагогікі.

У 1966 годзе Яўгену Смаршчку прапануюць пасаду дацэнта ў Вышэйшай фламандскай школе ў Антверпене, дзе ён выкладаў рускую мову аж да 1980 года. Перад пенсіяй яму было нададзена званне прафесара вышэйшых школ.

З Еўропы цяпер да зэльвенцаў завітаем у Расію. У Загорску, што каля Масквы, пражывае наш зямляк з вёскі Шулякі **Віталь Антонік**. Ён кандыдат багаслоўскіх навук. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю, Духоўную акадэмію ў Санкт-Пецярбургу і біялагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працуе цяпер адказным супрацоўнікам аддзела сацыяльнага служэння пры Маскоўскім Патрыярхаце.

Віталь Антонік часта бывае на Зэльвеншчыне і Слонімшчыне. Ён яшчэ выкладае асноўнае багаслоўе ў духоўнай семінарыі ў Жыровічах.

Вёска Шулякі — радзіма прыгожай беларускай дзяўчыны **Ганны Дзянішчык** — жонкі беларускага пісьменніка Адама Бабарэкі. Яны пазнаёміліся ў Мінску і адразу пакахалі адзін аднаго. Адам Бабарэка — цудоўны апавядальнік, адзін з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання "Маладняк" (1923), сакратар аб'яднання "Узвышша" (1926). Двойчы быў рэпрэсіраваны і памёр у сталінскіх лагерах у 1938 годзе. Побач з ім заўсёды была і ніколі яму не здраджвала дзяўчына з Шулякоў Ганна Дзянішчык. Яна выхавала дваіх дачок. Адна з іх Алеся Бабарэка жыве ў Маскве. "У мамінай вёсцы я ніколі не была. Бацька мамін памёр у Шуляках. А мама мая пахавана ў Маскве на Вастракоўскіх могілках, таксама тут і мая сястра Лора. Акрамя мяне, нашчадкаў у Ганны і Адама няма", — напісала неяк у адным з лістоў да мяне Алеся Бабарэка. Дарэчы, сама Алеся Адамаўна скончыла Маскоўскі універсітэт, працуе ў Інстытуце металургіі Расійскай акадэміі навук, адзін з аўтараў кнігі "Тэорыя ўтварэння тэкстур у металах і сплавах", аўтар больш за 100 навуковых артыкулаў па гэтай тэме. Алеся Бабарэка — сябра беларускай суполкі "Скарыніч" у Маскве.

Спіс знакамітых зэльвенцаў у свеце можна працягваць і працягваць.

Барыс Сачанка ў адной са сваіх кніг напісаў: "Эміграцыя... Розная яна была і па-рознаму складвалася ў кожнага чалавека". Па-рознаму яна складваецца і складвалася і ў нашых простых і таленавітых землякоў-зэльвенцаў у вялікім і трывожным свеце. Але што зробіш — такі іх лёс.

ВЫ ВЕДАЕЦЕ? НОВЫ ГОД — ГОД КАТА!

# МЯЧ, ВАРКОТ, ДУСЯ І ІНШЫЯ

***...Я разумею італьянцаў, якія былі ў захапленні ад катоў Наталлі Рачкоўскай. Прыйшлі яны ў майстэрню мінскай мастачкі з мэтай адабраць яе работы для выставы ў Італіі, а ўбачыўшы "кацінае сямейства", загарэліся жаданнем і яго ўключыць у экспазіцыю.***



● Маргарыта СТАРЫХ.

ПАЕХАЛА тая сямейка — трохі папоўненая — з 15 членаў у Італію, дзе і засталася назаўсёды, бо знайшла там сабе новых гаспадароў. Італьянцы, як аказалася, проста абажаюць гэтых мілых жывёл — яны значаць для іх не менш, чым свяшчэнныя каровы для індусаў. Ну а каты і кошкі Наталлі Рачкоўскай, акрамя індывідуальнасці, характару, валодаюць яшчэ адной бясспрэчнай якасцю — яны не могуць "гуляць самі па сабе", што дазваляюць сабе астатнія іх сваякі. Так, яны неадлучна знаходзяцца пры гаспадарах, там, дзе іх паставілі, пасадзілі — на камінкай паліцы, у пярэднім пакоі ці яшчэ недзе, бо створаны яны ў кераміцы. Праўда, пры гэтым зусім не страцілі сваёй прыроднай грацыі, харавства і іншых вартасцей.

...Да кошак і катоў Наталлю Рачкоўскую цягнула ўсё жыццё, і ў іх доме яны практычна не зводзіліся. Але толькі нядаўна яна даведалася, што па гараскопу яе жывёла — чорны кот. Ужо пасля смерці Мяча, які да ўзросту гадаванца англійскага марака Артура Бакстара не дацягнуў (таму кату было 32 гады), але ўсё ж пражыў па максімуму, адпушчанаму прыродай, — 15 гадоў.

— Колькі сябе памятаю, у нашай сям'і заўсёды жылі знойдзеныя жывёлы, — расказвае Наталля. — Асабліва неабыякавай у гэтым плане мая сястра была — зараз яна доктар біялагічных навук, у медінстытуце выкладае. Потым гэта ўжо да маёй дачкі перайшло. Хто толькі ў нас у доме ні жыў — нават крот, аматар каўбаскі, і... вялізны мадагаскарскі павук — жах сапраўдны! Маша яго малаком і тварагом карміла. Натуральна, і сабакі вадзіліся, у асноўным "дваранскага" паходжання. Іх выхаваннем займаўся Мяч. Эльса, якая зараз у нас жыве, таксама яго выхаванка і тое-сёе пераняла ад яго звычак, нават аблізваецца, як ён.

Так, каты — гэта нешта неверагоднае, загадкавае, незразумелае. Чым больш з імі водзішся, тым больш здзіўляешся іх надзвычайнай сутнасці. Пра выбрыкі і звычкі нашага Мяча цэлую кнігу можна напісаць. Халадзільнік ён адчыняў наступным чынам: клаўся на спіну і знізу адчыняў дзверку, затым хутка ўскокваў і ўклінваўся ў шчыліну, каб паспець да таго, як дзверка зачыніцца. Але браў з халадзільніка толькі сваю законную "крывянку". А вось з супу, які кіпеў на пліце, мог выцягнуць кавалак мяса. Рабіў ён гэта так: садзіўся на падаконнік, каб быць на ўзроўні каструлі, потым акуратна і імгненна, каб не апячыся, кіпцюром выхопліваў мяса... Мышэй лавіў спраўна і паўсюдна насіў іх за мной. А яшчэ...

Гісторый з жыццця ката Мяча мноства, і, натуральна, аб усіх зараз немагчыма расказаць. А вось убачыць самога героя можна ў Мінску ў Галерэі нацыянальнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва на выставе. І не толькі яго. Тут жа невялікая кацінае сямейка — маці і двое недаростку-кацянят лашчацца на спінах, задраўшы лапкі ўгару. Гэта поза расслабленасці і поўнага даверу да ўсіх выклікае асаблівае замілаванне, а рука так і цягнецца, каб пагладзіць мяккі жывоцік. Кот Варкот — вельмі сур'ёзны джэнтльмен са смешным чубчыкам, які выглядае з-пад капелюша-цыліндра. Рафініраваны інтэлігент Сторож — з бародкай а-ля Людовік XV ці XVI, з хвацка закручанымі тоненькімі вусікамі — жыццёвыя абставіны складваюцца не на ягоную карысць, але ён яшчэ канчаткова не згубіў свайго харавства. Утульная кошка Дуся быццам сышла з лубачнай карціны. Што датычыцца Мяча, то ён вельмі паважны і стрыманы, нягледзячы на сваю мяккую акругласць — пагглядае зверху хітравата (што ён любіў і пры жыцці рабіць, седзячы на халадзільніку ці падаконніку). Ёсць у ім рысы, якія адпавядаюць назіранням нямецкага прафесара Гельмута Хеймера, які сцвярджае, што характар хатніх кошак у некаторай ступені залежыць ад іх афарбоўкі. Чорным, да якіх належаў і Мяч, уласцівая нервовасць, сентыментальнасць, цікаўнасць і добразычлівыя адносіны да ласкі.

Тут хочацца прывесці вельмі дакладную, як мне здаецца, і ёмістую характарыстыку творчай манеры як у жывапісе, так і ў кераміцы Наталлі Рачкоўскай, якую дала ёй мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн: "Наталля Рачкоўская стварае свой пластычны тэатр, дзе яна як драматург і рэжысёр, акцёр і сцэнограф гуляе ўсім і ўсімі, з усім і з усімі ў самыя розныя гульні, ад дзіцячых кубікаў да філасофскіх паняццяў. І тут ёсць свая асаблівая "пляцоўка", дзе гуляюць толькі каты. Сто катоў. Сто характараў, з'яў, станаў, недахопаў і дабрачыннасці. Сто нашых масак, аднолькавых у кераміцы з невычэрпным гумарам, прыныповасцю і выратавальнай спагадлівасцю. Свабода лепкі, выразнасць поз і сілуэтаў, высакароднасць колеравай палітры глазуры і эмалі хутка "прыручаюць" катоў, робяць іх патэнцыяльна "хатнімі", па-сапраўднаму дэкаратыўнымі, нягледзячы на іх псіхалагічную напоўненасць".

Дадам толькі наконт "ста катоў". У мастачкі ёсць цудоўная задума наконт выставы ста катоў, якую яна збіраецца прысвяціць Мячу. І каб абавязкова яны не толькі прыстойна сядзелі на падстаўках, а і "хадзілі" па падлозе, каб у цэнтры экспазіцыі быў вялікі фотапартрэт самога Мяча. Уяўляю, што гэта за выстава атрымаецца! Але здзяйсненню гэтай задумы перашкаджае адна істотная прычына — немагчымасць сабраць разам такую вялікую "кацiную сям'ю". Справа ў тым, што каты Наталлі Рачкоўскай ахвотна купляюцца. Але ўсё ж мастачка не губляе надзеі. Мы таксама будзем спадзявацца, што унікальная выстава "100 катоў Наталлі Рачкоўскай" адбудзецца. І не ў такім ужо далёкім часе.

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.*









«Голас Радзімы»

Рэдакцыйная калегія

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 7.
Падпісана да друку 4.1.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.